■ МЕДЫЦЫНА

## Новыя тэхналогіі лячэння ад туберкулёзу

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні горад наведала міжнародная камісія ад сусветнай арганізацыі па ахове здароўя. Мэта – праверыць, як працуе тут новая праграма лячэння туберкулёзу.**

Маладзечанскі раён разам з Дзяржынскім першымі ў Мінскай вобласці (з леташняга красавіка) здзяйсняюць новы праект. Сутнасць яго ў новай дыягностыцы туберкулёзу. Замест усім знаёмай флюараграмы пацыенты здаюць на аналіз макроту, якая атрымліваецца ў выніку кашлю. Скарачаецца ўдвая і тэрмін лячэння. Пры новым метадзе гэта 2 месяцы стацыянара і максімум 4 месяцы амбулаторнага лячэння.

Камісія, у склад якой разам з прадстаўнікамі міністэрства аховы здароўя увайшлі ўрачы з Нідэрландаў, Англіі і ЗША дала станоўчую адзнаку рабоце маладзечанскіх медыкаў.

Зайшла размова і пра дапамогу ад каардынацыйнага савета праграмы ў набыцці неабходнага абсталявання (найперш, біякулярных мікраскопаў) і медыкаментаў, з якімі ў мясцовых урачоў праблемы. Ёсць задумы пераводзіць на новы метад лячэння ўсю вобласць. Аднак паўстае банальнае пытанне недахопу сродкаў. Немагчыма прыстасаваць тыя лекі, што выкарыстоўваюцца пра звычайным лячэнні. Трэба замяняць і абсталяванне.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Стаматолагі на Мядзельшчыне

**МЯДЗЕЛ. У раёне праходзіў рэспубліканскі семінар. Прысвечаны ён ходу выканання нацыянальнай праграмы прафілактыкі карыесу ў дзяцей.**

Навукоўцам, галоўным стаматолагам абласцей і Міністэрства аховы здароўя спадабаліся спецыяльныя ўрокі і заняткі ў другой школе і садку №4 райцэнтра. Магчыма, што Мядзельскі раён уключаць ў якую–небудзь стаматалагічную праграму.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДЗІЦЯЧАЯ ТВОРЧАСЦЬ

## Падлеткі рухаюцца ў UNESCO

**МЯДЗЕЛ. Клуб "Падлетак" пры Доме дзіцячай творчасці прыняты кандыдатам у члены клубаў UNESCO.**

Кіраўнік клуба **Ада Русановіч** лічыць, што гэта паслужыць стымулам для дзяцей палепшыць свае паводзіны і вучобу. Можна ж паўдзельнічаць у розных летніках і ўніверсітэтах пры UNESCO.

Клуб існуе паўтара года. Напачатку аб'ядноўваў "цяжкіх" падлеткаў, цяпер – усіх жадаючых школьнікаў з Мядзела.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ТВОРЧАСЦЬ

## Пра армію і пра каханне

**ВАЛОЖЫН. Заўтра ў раённым цэнтры культуры пройдзе творчы вечар аўтара і выканаўцы ўласных песень падпалкоўніка Сяргея Макея "Пра армію і пра каханне".**

Сяргей Макей – камандзір батальёна, яго песні гучаць і па рэспубліканскім радыё. У мінулую пятніцу ён перамог на адборачным туры тэлевізійнага конкурсу салдацкай песні. У фінал выйшаў у намінацыі "Аўтарская песня" з творам "Чакай мяне, матуля, чакай".

Вечарына будзе складацца з дзвюх частак. У першай падпалкоўнік будзе спяваць пра армію. У другой – пераапранецца ў цывільнае, а тэмай песень стане каханне і жыццё.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ МУЗЕІ

## Абразы – музею і цэрквам

**МЯДЗЕЛ. На днях яшчэ 11 абразоў атрымаў з брэсцкай мытні музей райцэнтра.**

Прызначаныя яны не толькі для экспазіцыі, якая выстаўляецца ў музеі. Частку перададуць у мядзельскую і нарачанскую цэрквы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ШКОЛА



Фота Яўгена Стальмака.

Сярэдняя адукацыйная школа мастацтваў мае своеасаблівы інтэр'ер – паўсюль карціны.

## Канкурэнцыя на ніве адукацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. У верасні 1996 года школу мастацтваў (САШМ) падзялілі на дзве часткі. Гэтая падзея нарадзіла ў горадзе новую школу – №12. Невялічкая і ўтульная, яна месціцца ў будынку САШМ, але ў ёй вучацца 1175 вучняў і працуюць 78 настаўнікаў.**

Выкладанне ў школе вядзецца на рускай мове. Сёлета будзе выпускацца 6 класаў. 86 чалавек скончаць сярэднюю школу, 80 атрымаюць базавую адукацыю.

Дырэктар школы **Віктар Мураўёў** зазначае, што педагагічная крэда школы – творчы падыход, працавітасць і цярплівасць. Каб скласці канкурэнцыю САШМ, у гэтым навучальным годзе ў 3–4 класах уводзіцца прадмет "экалогія з асновамі біялогіі" (за кошт гадзін школьнага кампанента), а ў падрыхтоўчым і першым класах будуць вывучаць англійскую мову.

Намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце **Ганна Найдзюк** гаворыць, што выхаванне вядзецца згодна з асобасна–арыентаваным падыходам да вучняў. Тут ствараюць умовы для задавальнення патрэбаў вучняў згодна з індывідуальнымі асаблівасцямі кожнага. Дзейнічае школьнае вучнёўскае самакіраванне.

У пачатковай школе працуюць інтэграваныя класы па ахове зроку, уводзіцца новая тэхналогія "Крок за крокам".

У перспектыве школа мае намер набыць статус школы з экалагічна–валеалагічным выхаваннем, а гуманітарным класам плануецца надаць правы ўхіл.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ ЭКАЛОГІЯ

## Прырода ўсё вытрывае

**СМАРГОНЬ. "Нацыянальная стратэгія ўстойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь", прынятая ў 1997 годзе, мае праект "Нацыянальны план дзеяння па гігіене навакольнага асяроддзя Беларусі".**

У ім акрэсліваюцца асноўныя праблемы кожнай галіны гігіены і навакольнага асяроддзя. У главе "Вада" ёсць звесткі: " У рэкі і азёры Беларусі штогод паступае каля 27 мільёнаў кубічных метраў сцёкаў, у якіх да 0,3 тысяч тон нафтапрадуктаў, звыш за 9 тон злучэнняў азоту (у тым ліку, нітратаў і нітрытаў), 0,6 тысяч тон фосфару, да 11 тысяч тон біялагічна акісляльных арганічных рэчываў і да 16 тысяч тон розных суспензій. Больш як палова з 400 тысяч калодзежаў, з якіх бяруць пітную ваду ў сельскай мясцовасці, утрымліваюць нітраты звыш дапушчальнай нормы. Дайшоў бруд і да канцэнтраванай тэхнагеннай нагрузкі".

Становішча не з лепшых, і выйсце з яго будзе нялёгкае і няпростае. Маю на ўвазе праблемы глабальнага маштабу. Калі ж зазірнуць у справы і паперы мясцовых улад, дзе толькі ў справаздачах нешта і робіцца, то дзіву даешся – усё працуе і адпавядае, як трэба.

У Залессі каторы год пітная вада, якой сёння "вельмі шмат", льецца з калонкі (калі ісці ў накірунку завулка Агінскага), а калонка не працуе. Фантан вады б'е, бы вулкан вывяргаецца, а старшыня калгаса штораніцы на машыне праязджае, і намеснікі пешшу дахаты з работы ідуць, але ніхто не звяртае на гэта ўвагу. Сродкаў у дзяржавы шмат, прырода ўсё вытрымае.

Возера, што на тэрыторыі маёнтка М. Агінскага, таксама забруджанае. На паверхні вады ў цёплы час добра відаць бруд, цагліны, аўтамабільныя і трактарныя колы і гэтак далей. І таксама пра гэта нікому не баліць галава!

Бруд сёння не толькі ў прыродзе, але і ў душы чалавека, які абыякава ставіцца да жыцця. Калісьці пісьменнік і грамадскі дзеяч Ян Ходзька (Барэйка) прыехаў у госці да М. Агінскага з сынам Аляксандрам і быў зачараваны маляўнічасцю наваколля сядзібы. Пазней Аляксандр свае пачуцці выказаў у рамантычнай паэме "Залессе". Гэтае пасланне гучыць і сёння паэтычным воклічам: "Я праўнукам хацеў бы паслаць Залессе!" Але што застанецца праўнукам?

**Святлана КОДЗЬ.**

■ ДНІ



**23 лютага – 110 год з дня нараджэння М. Піятуховіча** (1891–1938), літаратуразнаўцы, крытыка, педагога, акадэміка АН Беларусі.

**70 год з дня нараджэння** (1931) **Я. Бабосава**, беларускага філосафа.

**Дзень абаронцаў Айчыны і Ўзброеных Сіл Рэспублікі Беларусь.**

**1 сакавіка – 70 год з дня нараджэння** (1931) **У. Пасюкевіча**, беларускага жывапісца, педагога.

■ ІМЯНІНЫ

**23 лютага**
Праваслаўныя: **Валянціны, Ганны, Паўлы, Парфірыя, Прохара.**
Каталіцкія: **Рамана, Дамяна, Палікарпа.**

**24 лютага**
Праваслаўныя: **Гаўрылы, Дзмітрыя, Уласа, Усеваляда.**
Каталіцкія: **Богуша, Мацея.**

**25 лютага**
Праваслаўныя: **Марыі, Тацяны, Аляксея, Антона, Мялеція, Яўгена.**
Каталіцкія: **Віктара, Цэзара.**

**26 лютага**
Праваслаўныя: **Зоі, Святланы, Сціпана, Сямёна.**
Каталіцкія: **Аляксандра, Міраслава.**

**27 лютага**
Праваслаўныя: **Абрама, Аўксенція, Ісака, Кірылы, Міхаіла, Фёдара.**
Каталіцкія: **Анастасіі, Габрыеля, Леанарда.**

**28 лютага**
Праваслаўныя: **Ефрасінні, Анісіма, Пафнуція, Ясуся.**
Каталіцкія: **Макара, Рамана.**

**1 сакавіка**
Праваслаўныя: **Данілы, Ерамея, Ільі, Ісая, Памфіла, Парфірыя, Паўла, Самуіла, Юльяна.**
Каталіцкія: **Антаніны, Альбіны, Фелікса.**



## Наваселле ў энерганаглядзе

**ВАЛОЖЫН. На днях у новы будынак пераехаў мясцовы энерганагляд.**

Месціўся ён на водшыбе, што дастаўляла нязручнасці наведвальнікам. Цяпер энерганагляд пераязджае ў цэнтр горада, на вуліцу Партызанскую. Там раней знаходзіўся прыватны магазін, дзе гандлявалі таварамі для рамонтных работ. Але прыватнік не вытрымаў рыначнага ціску.

Энерганагляд купіў будынак у гаспадара – ВА ЖКХ – па ўзаемаразліках. Цяпер там ідзе рамонт.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ СЛУЖБА «01» ПАВЕДАМЛЯЕ

## Тэлефон «01» як люстэрка нашай культуры

**– Пажарная? У нас гарыць дом!**
**– Дзе? Назавіце адрас!**
**– На вёсцы, у дзядулі!**

**МАЛАДЗЕЧНА. Гэта самыя бяскрыўдныя рэчы, якія даводзіцца слухаць радыётэлефаністам, якія вядуць кругласутачнае дзяжурства на тэлефоне "01".**

Ім даводіцца па дзесяць, дваццаць, сто дваццаць разоў падымаць трубку, загадзя ведаючы, што тая можа выдаць чарговую непрыстойнасць або "мілы" жарт чыйгосьці дзіцяці.

Радыётэлефаністамі, побач з мужчынамі, працуюць і жанчыны. Лічыцца, што ў іх больш востры слых, павышаная інтуіцыя. Але ж у іх і павышаная ранімасць. І няважна, што на плячах пагоны. Бо і ў іх ты застаешся жанчынай, у якой дома дзеці. А дзяжурыць табе, няхай і ва ўтульнай дыспетчарскай, суткі напралёт.

Хто ж яны, "бяскрыўдныя" хуліганы?

Па–першае, дзеці. Па іх званках можна з упэўненасцю вызначыць і без каляндара, калі пачаліся канікулы або скончыліся ўрокі ў школе: гэтыя ўпарта патрабуюць "патушыць яечню, што гарыць" або "мокрую бялізну ў ванным пакоі".

Яшчэ адна катэгорыя набірае код Мінска 017, нумар тэлефона і... трапляе на цэнтр аператыўнага ўпраўлення пажарнага аварыйна–выратавальнага атрада Маладзечанскага раёна. Высвятляецца, што перад кодам горада чалавек забыўся набраць 8. Толькі за адныя суткі паступае больш за 100 такіх званкоў.

Ёсць і спецыялісты па несапраўдных выкліках пажарных. Вядома, тэлефаністы, што працуюць на працягу многіх год, адрозняць несапраўдны выклік ад сапраўднага, але... Паспрабуй вазьмі на сябе адказнасць, калі цябе пераконваюць, што агонь ужо робіць сваю страшную справу.

Але галоўнае, усё ж, – не эмоцыі стомленых людзей, што дзяжураць на "01". Пакуль вялікаўзроставы "жартаўнік" адпускае свае жартачкі або забываецца набраць 8 перад кодам горада, камусьці і на самой справе неабходная дапамога. Але пажарная часць сустракае іх кароткімі гудкамі.

У дыспетчарскай пры званку высвечваецца нумар суразмоўцы. Яго голас запісваецца ў камп'ютэр, аўтаматычна вызначаецца адрас таго, хто тэлефануе, а дыспетчар у любы момант можа далучыць да размовы іншы вядомы нумар – "02". А за несапраўдны выклік–забаву давядзецца выкласці дзесяць мінімальных заработных плат.

**Андрэй РАБЕЦ,**
**інспекцыя дзяржаўнага пажарнага нагляду Маладзечна і раёна.**

## Валожынцы любяць знаёміцца

**ВАЛОЖЫН. У 7 разоў за месяц павялічылася аплата за паслугі службы знаёмстваў па тэлефоне.**

Калі за мінулы снежань валожынцы выклалі 99 тысяч рублёў, то за студзень – 700 тысяч. Адзін аматар заплаціў за мясяц 70,5 тысяч рублёў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ МЫ Ў XXI СТАГОДДЗІ

# Суб'ектыўныя нататкі пра выбар прафесіі

**Прайшлі школьныя сустрэчы былых выпускнікоў. Не за гарамі вясна – час пакутлівых разважанняў для выпускнікоў сённяшніх. Знакамітае "Куды пайсці вучыцца?" даўно перастала быць пытаннем. Багата вышэйшых і іншых навучальных установаў, якія запрашаюць і нават зазываюць, асабліва на платныя патокі.**



Маладзечанскія студэнты да будучай прафесіі рыхтуюцца нават у электрычцы. Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

Аднак заплаціць 100, 150 ці 180 долараў можа сёння далёка не кожны. Ды і калі ўжо плаціць, то за што–небудзь канкрэтнае, што абавязкова дазволіць заўтра зарабіць на кавалак хлеба. Хацелася б яшчэ і з маслам. Каб адказаць на пытанне, куды ісці вучыцца, спачатку давядзецца паразважаць над больш цяжкім – кім стаць, куды пайсці працаваць.

Калі раней працэс атрымання другой адукацыі або перакваліфікацыі быў больш–менш магчымы, то сёння пры ўмове яго платнасці, не хочацца траціць грошы дарэмна. Хаця на пытанне, куды пайсці працаваць, быццам, і ёсць адказы: вакансій не бракуе.

Аднак і цяпер час пры сцвярджэнні статыстыкаў аб вельмі нізкім беспрацоўі гэтае пытанне актуальнае. Некалі ж усё адно скончацца рэформы і шырокамаштабная прыватызацыя і рэструктурызацыя эканомікі, што непазбежна прывядзе да нябачанага беспрацоўя. Будучым выпускнікам універсітэтаў і інстытутаў у канкурэнтнай барацьбе за вакантнае месца са спецыялістамі са стажам будзе нашмат складаней. Таму пралічваць варыянты і прымаць рашэнне трэба ўжо цяпер. Зіма, мусіць, самы падыходзячы для гэтага час. Паразважаем разам.

### Спачатку пра тое, што ёсць

Нашы навучальныя ўстановы з іх праграмамі і персаналам наўрад ці гатовыя да будучай пераарыентацыі эканомікі. Яны проста даюць вал выпускнікоў і гоняцца, дакладней, спрабуюць угнацца за кан'юнктурай рынку працы.

Быў попыт на бухгалтараў і фінансістаў – калі ласка, амаль у кожным горадзе адкрыты хоць філіял або факультэт эканамічнай вышэйшай навучальнай установы. Быў бум на псіхолагаў – іх пачалі рыхтаваць паўсюдна. Аднак у школах з–за нізкай зарплаты іх усё адно недастаткова, большасць пайшла ў маркетынг. Прайшоў бум і на адвакатаў з юрыстамі.

Узровень выкладання ў вышэйшых навучальных установах пастаянна зніжаецца, таму што застаюцца чытаць лекцыі ўчарашнія выпускнікі без досведу і практычных ведаў. Выкладаць жа кіраванне бізнесам можа толькі той, хто гэта класна зрабіў на практыцы. Але ў нас такіх адзінкі засталіся, ды і тыя не жадаюць "свяціцца".

### Цяпер пра тое, што будзе

Рынак ёсць рынак, таму вялікім попытам будуць карыстацца спецыялісты па продажах, дасведчаныя маркетолагі (збытавікі і забеспячэнцы). Фінансісты і іншыя спецыялісты эканамічнага профілю таксама змогуць знайсці работу.

Складаней будзе банкірам. З прыходам моцнага заходняга або расійскага капіталу патрэбнасці ў служачых банкаўскай сферы ўзрастуць, але і колькасць працуючых зменшыцца. Зрэшты, не надта, відаць, цікава працаваць у банках: усё абкладзена інструкцыямі і законамі, крок налева ці направа – спроба да ўцёкаў, скачок на месцы – спроба ўзляцець.

Моцнаму прафесіяналу–фінансісту лепш, ды і цікавей будзе ў салідцай кампаніі ці фірме. У хуткім часе спатрэбіцца вялікая колькасць спецыялістаў па інфармацыйных тэхналогіях і рэкламных паслугах – пра заработкі камп'ютэршчыкаў ужо складаюцца легенды. Аднак рост продаж персанальных камп'ютэраў ва ўсім свеце скарачаецца – рынак насычаны. Хто хацеў, той купіў ужо, астатнія не хочуць важдацца. Затое ўзрасце попыт на мабільныя камп'ютэры і іншыя новыя распрацоўкі.

Са зніжэннем нараджальнасці педагогаў і выхавальнікаў спатрэбіцца менш, але і будучаму настаўніку не давядзецца ісці ў клас да 25 чалавек. Прафесія журналіста не хутка падыме свой прэстыж, таму туды наўрад ці варта імкнуцца.

Не застанецца прафесій "мужчынскіх". Маладыя людзі, падобныя да мужчын, ужо цяпер баяцца быць інжынерамі і хірургамі, хочуць быць эколагамі. Таму інжынеры і, наогул, тэхнары будуць нарасхоп.

Такім чынам, з дыпломам уладкавацца і прабіцца будзе, па–ранейшым, прасцей, чым без. Аднак рэзка ўзрасце і патрэбнасць у кваліфікаваных рабочых, ды і наогул, уменне нешта рабіць сваімі рукамі (плюс наяўнасць галавы на плячах) будзе надзвычай каштоўнае. Добры сантэхнік або плітачнік, паркетчык або токар (ужо цяпер іх не хапае) – учора, здавалася б, нават не работа, а халтура – зробяцца сапраўды запатрабаваныя. Жаданне людзей жыць прыгожа (пры наяўнасці магчымасці) падыме попыт на разнастайныя прафесіі.

Аднак самы вялікі бум чакае нас у сферы паслуг, уключаючы турыстычны, гасцінічны і рэстаранны бізнес.

І апошняе – з жыцця. Сын знаёмага вучыцца на факультэце нейкай мудрагелістай псіхалогіі. На мае сумненні, што ў такі напружаны час было б больш практычна ўмець штосьці рабіць мазгамі або рукамі, ён адказаў:

– Вучыцца на псіхолага, каб навучыцца дабівацца поспеху. У любой справе, у любой канкрэтнай галіне.

Гучыць пераканаўча. У нечым ён мае рацыю. У наш дынамічны час, магчыма, не наяўнасць канкрэтнай прафесіі будзе садзейнічаць поспеху і руху наперад, а ўменне своечасова адчуць змяненні і паспець схапіць удачу за хвост. Тады спатрэбіцца не вузкасць спецыяльнасці, а шырыня светапогляду, кругагляду. Нават інтуіцыя.

Не думаю, што я развеяў сумненні чытача албо пераканаў у чымсьці. Але паспрабаваў пазначыць асноўныя зрухі ці тэндэнцыі попыту на рынку працы ў пачатку XXI стагоддзя. Вырашаць, вядома ж, давядзецца вам самім.

**М. А.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 15 лютага | 22 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 1230,00 руб. | 1238,00 руб. |
| Нямецкая марка | 578,64 руб. | 575,06 руб. |
| Літ | 307,46 руб. | 309,42 руб. |
| Расійскі рубель | 42,90 руб. | 43,21 руб. |
| Злоты | 300,11 руб. | 301,58 руб. |
| ЕЎРА | 1131,72 руб. | 1124,72 руб, |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1200 – 1220 руб. | 1240 – 1250 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 14.02 | Цана (руб.) 21.02 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1700 | 1700 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6642 | 6642 |
| Сасіскі, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Селядзец, 1 кг | 1100 | 1000 |
| Рыс, 1 кг | 460 | 460 |
| Грэчка, 1 кг | 470 | 460 |
| Цукар, 1 кг | 555 | 555 |
| Алей, 1 л | 670 | 670 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 670 | 660 |
| Маянэз, 200 г | 200 | 210 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1300 | 1300 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 380 | 400 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 360 | 360 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 170 | 170 |
| Капуста, 1 кг | 155 | 170 |
| Лімоны, 1 кг | 1250 | 1250 |
| Апельсіны, 1 кг | 1000 | 920 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 900 | 900 |
| Масла, 1 кг | 1800 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 1000 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 1000 |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | 700 |
| Морква, 1 кг | 300 | 250 |
| Яблыкі, 1 кг | 350 | 350 |

## Крама як спосаб выжыць

**АСТРАВЕЦ. Не ад добрага жыцця ў адміністрацыйным будынку райаграпрамтэхнікі адкрываецца ўласны магазін.**

Мяркуецца, што пакупнікі змогуць набыць у ім, акрамя прадуктаў харчавання, яшчэ вырабы з дрэва і жалеза, тавары для пахавання.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Уведзены новы збор на рынках

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 1 сакавіка прадпрымальнікі, якія гандлююць на рынках горада, будуць плаціць дадатковы збор.**

Такое рашэнне прыняла нечарговая сесія гарсавета ў аўторак. Права гандляваць для кожнага гандлёвага пункта абыдзецца ў суму ад 2 да 4 мінімальных заработных плат.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## За межы раёна

**ВАЛОЖЫН. Веснавы падарунак зрабілі абанентам тэлефонных станцый Даманоўшчына і Белакорац спецыялісты раённага вузла электрасувязі.**

З 1 сакавіка вяскоўцы змогуць, нарэшце, тэлефанаваць за межы раёна баз дапамогі тэлефаністак. Цяпер на тэлефонных станцыях ідуць падрыхтоўчыя работы.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ РЦГІЭ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Прадаюць старыя кілбасы

**МАЛАДЗЕЧНА. У цяперашні цяжкі эканамічны час кожная гаспадыня хацела б купляць прадукты недарагія. Часам гандаль прапануе амаль такія. Але з сышоўшым тэрмінам захоўвання і рэалізацыі.**

Найбольш часта з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі рэалізуюцца кілбасныя вырабы. Сёлета вынесеныя пастановы на бракоўку прадуктаў у крамах "Рэна", "Махаон", "Гаспадыня", "Экспрэс", "Кааператар", №3 вёскі Лебедзева.

Важнае значэнне маюць тэмпературныя ўмовы захоўвання. З–за іх невыканання рэзка скарачаюцца тэрміны рэалізацыі прадукцыі. З–за адсутнасці неабходных умоў захоўвання забракавана 253 кілаграмы марожанага, якое знаходзілася ў халадзільнай камеры УП "Каапгандаль" Маладзечанскага райспажыўтаварыства.

У пачатку лютага праводзілася рэйдавая праверка наяўнасці пасведчанняў аб гігіенічнай рэгістрацыі на жавальныя цукеркі "Мамба" (рэалізацыя якіх забаронена з–за выкарыстання ў іх вытворчасці жывёльных тлушчаў з Германіі, якая, як вядома, нядобранадзейная па захворванні вар'яцтвам кароў). Выяўлена некалькі выпадкаў продажу цукерак "Мамба" у кіёсках Маладзечна без неабходных дакументаў.

На кіраўнікоў прадпрыемстваў гандлю, прадпрымальнікаў накладзеныя штрафы.

**Людміла МАЙКО, загадчык аддзялення гігіены харчавання МРЦГІЭ.**

■ СПАЖЫВЕЦ

## 500 тысяч за зламаныя зубы

**МАЛАДЗЕЧНА. За 5 год каля сямі дзесяткаў разоў наведваў гараджанін Н. стаматалагічныя кабінеты. А ўсё таму, што ў яго былі няякасныя зубныя пратэзы.**

У 1994 годзе маладзечанец звярнуўся да прыватнага ўрача–стаматолага з просьбай зрабіць пратэз. На працягу некалькіх месяцаў пратэз двойчы ламаўся.

Кліент з урачом дамовіліся пра абслугоўванне іншым урачом–прыватнікам, а аплату паслуг – за кошт ганарара першаму ўрачу (каля 75 долараў).

Праз некаторы тэрмін вырашылі перарабіць першы пратэз і паставіць яшчэ некалькі. У працэсе выдалілі некалькі зубоў. Але пратэзы не прыжываліся, жаваць было немагчыма, хварэлі дзясны. Яшчэ некалькі зубоў зламалася, калі здымалі няякасныя пратэзы.

Летась урач прапанаваў кліенту пад распіску 100 долараў і развітацца. Так і зрабілі. Але амаль адразу паламаўся пратэз, а ўрач адмовіўся яго замяніць, бо, маўляў, пратэз быў бясплатны.

Гараджанін звярнуўся па кансультацыю ў гарадскую стаматалагічную паліклініку. Там прызналі работу ўрача няякаснай і далі рэкамендацыі па далейшым лячэнні. Прычым, параілі праводзіць яго ў Мінскай абласной стаматалагічнай паліклініцы. Акрамя гэтага, вердыкт маладзечанцаў пацвердзіў Мінскі інстытут паслядыпломнай адукацыі.

Маладзечанец напісаў заяву ў таварыства па абароне спажыўцоў. Ён патрабуе кампенсацыю за ўрон здароўю і за маральныя страты ў памеры 500 тысяч рублёў плюс аплата лячэння ў абласной паліклініцы.

На наступным тыдні ў Маладзечанскім таварыстве абароны спажыўцоў адбудзецца сустрэча кліента з урачом. Старшыня таварыства **Уладзімір Клешч** лічыць, што ў жыхара горада ёсць шанцы выйграць справу.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Пэтэвэшнік «абуў» прадпрымальніка

**АШМЯНЫ. Прадпрымальнік з Будзёнаўкі на рынку ў Ашмянах разжыўся на 50 долараў ЗША, але праз некаторы час агледзеў, што гэта падробка.**

На 5–доларавую купюру былі наклееныя знятыя на ксераксе фрагменты 50–доларавай купюры. Міліцыя высветліла, што "бізнесам" займаўся навучэнец мясцовага ПТВ–192.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

# Пакладзіце мяне ў зямлю Багданаўскую

## Зямля і неба Фердынанда Рушчыца

**Мінулае стагоддзе было багатае на юбілеі знакамітых людзей, імёны якіх належаць сусвету. Сярод іх імя мастака Фердынанда Рушчыца, 130 год з дня нараджэння якога споўнілася 10 снежня.**

Так здарылася, што да апошняга часу мы вельмі мала ведаем пра гэтага чалавека, а хтосьці і зусім нічога не ведае. Магчыма, таму, што яго карціны сёння ўпрыгожваюць мастацкія галерэі і музеі краін Еўропы, а што тычыцца яго Радзімы – Беларусі, то ў Нацыянальным Мастацкім музеі ў Мінску ёсць толькі адно палатно, да якога дакранулася рука вялікага жывапісца і графіка – "Ля касцёла".

Можна падзякаваць лёсу за тое, што нашчадкі Фердынанда Рушчыца, якія жывуць у Польшчы, перадалі 17 рэпрадукцый з яго карцін філіялу Мастацкага музея ў Гальшанах, дзе, так бы мовіць, "захавальнікі ачага" берагуць гэты скарб і з любоўю паказваюць яго гасцям і турыстам.

**У Багданаве, у адным з прыгажэйшых куточкаў старажытнай Валожынскай зямлі, нарадзіўся Фердынанд Рушчыц і тут ён пахаваны. Побач з могілкамі, на якіх пахаваныя жыхары Багданава і навакольных вёсак, на крутым пагорку, знайшлі вечны спакой Рушчыцы: дзед, бабка, бацькі – Эдвард і Альвіна. Тут і надмагілле Фердынанда і яго жонкі Рэгіны. Яшчэ некалькі надмагілляў родных і блізкіх Рушчыцаў.**

Жыхары Багданава шануюць памяць свайго знакамітага земляка. Цэнтральная вуліца названая яго імем, у сярэдняй школе ёсць краязнаўчы музей, дзе прадстаўленая экспазіцыя, прысвечаная жыццю і дзейнасці мастака. Ля будынка школы – памятны знак, які гаворыць пра сувязь жыцця Ф. Рушчыца з Багданавам.



Фота з кнігі Л. Дробава "Беларускія мастакі XIX стагоддзя".

**Гэты здымак Фердынанда Рушчыца зроблены ў пачатку мінулага стагоддзя.**

З творчасцю Рушчыца звязаныя і Гальшаны. Цяжка адшукаць у Беларусі паселішча, якое б мела столькі помнікаў сівой даўніны. Калісьці мястэчка, а цяпер проста вёска, мае касцёл і будынак кляштара, праваслаўную царкву, капліцу, у руінах замак Сапегаў і два музеі: адзін у сярэдняй школе (яго заснаваў былы дырэктар школы **Эдуард Корзун**) і філіял Нацыянальнага Мастацкага музея РБ, што месціцца ў будынку былога кляштара.

**НАРАДЗІЎСЯ** Фердынанд Рушчыц 10 снежня 1870 года ў Багданаве паблізу Валожына. Маёнтак Рушчыцы купілі ў 1836 годзе ў Чаховічаў. Бацька будучага мастака займаў высокую пасаду ва ўпраўленні Лібава–Роменскай чыгункі, таму сям'я некаторы час жыла ў Лібаве (цяпер Ліепая), а затым пераехала ў Мінск. З залатым медалём скончыў Мінскую гімназію малады Фердынанд. Тут, у гімназіі, атрымаў ён у выдатнага педагога К. Ермакова і добрыя навыкі ў выяўленчым мастацтве. Бацькі хацелі бачыць сына юрыстам, і таму ў 1890 годзе ён паступае на юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Аднак правучыўся толькі два гады. Набытыя веды па мастацтве і абуджаны талент падштурхнулі юнака да рашучага кроку: ён пакідае універсітэт і паступае ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Там ён набывае майстэрства жывапісу ў такіх настаўнікаў, як І. Шышкін і А. Куінджы. За яго талентам пільна сачыў яшчэ адзін выдатны рускі мастак – І. Рэпін.

Усё гэта дало належны плён: ужо ў 90–я гады Фердынанд Рушчыц піша творы "Вячэрняя зорка", "Вясна", за якія пры заканчэнні Акадэміі атрымлівае дыплом. А карціну "Вясна" заўважыў вядомы П. Трацьякоў і купіў для галерэі.

З Пецярбурга мастак вяртаецца ў свае родныя Багданаўскія пенаты, дзе жыве шэсць год, дапамагаючы бацьку і цалкам аддаючыся сваёй любімай справе – жывапісу. Тут пад родным небам, на зямлі, так багатай прыгожымі краявідамі і маляўнічымі куткамі, з незвычайнай сілай праяўляецца талент мастака, і ён піша лепшыя свае творы: "Млын у Доўкневічах", "У свет", "Эмігранты", "Зямля". Апошні, створаны ў 1898 годзе, па словах мастацтвазнаўцы **Лявона Дробава** – гімн нясцерпнай і вялікай сялянскай працы.

Фердынанд Рушчыц, аднак, часта ездзіць у Пецярбург, дзе пакінуў шмат сяброў і з 1898 года пачынае выстаўляць свае творы на розных выстаўках. Адна з яго карцін – "Млын" – прыцягнула ўвагу шматлікіх наведвальнікаў, але Акадэмія яе не закупіла. Затое карціну заўважыў багаты рускі прамысловец Сава Марозаў і набыў для сябе. За вырucаныя ад продажу грошы Ф. Рушчыц здзейсніў сваю мару – зрабіў трохмесячнае падарожжа за мяжу, у якім наведаў Берлін, Парыж, пабываў у Італіі і Швейцарыі. У сваіх запісах ён адзначае: "Бачым і захапляемся прыгажосцю іншых краін, аднак любім толькі свой край, адчуваем, што належыць ён нам, а мы яму".

**1903 ГОД** стаў паваротным для Ф. Рушчыца. Яго творы экспануюцца не толькі ў Пецярбурзе, але і Варшаве. І гэта прыносіць яму сусветную славу. У хуткім часе яго запрашаюць на пасаду прафесара жывапісу Варшаўскай Акадэміі мастацтваў, а з 1907 года ў Акадэмію прыгожых мастацтваў горада Кракава, дзе ўзначаліў кафедру пейзажу.

У далейшым мастак пераязджае ў Вільню, бліжэй да свайго любімага Багданава і аддае шмат сіл і намаганняў аднаўленню Віленскага універсітэта, кіруе кафедрай жывапісу, выступае ў якасці тэатральнага дэкаратара. У Віленскі перыяд піша "Гняздо", "Бледнае сонца", "Камін", "У пакоі бабуні". Яго добры прыяцель, вядомы гісторык і этнограф **Часлаў Янкоўскі** пісаў пра гэты час: "Ні адно святкаванне, ні адна ўрачыстасць, ні адзін рух грамадскі ці народны ад часу пасялення Рушчыца ў Вільні не адбываліся без яго ўдзелу".

Пазней, пасля смерці бацькі, у 1910 годзе, даводзіцца яму дзяліць свой час паміж Вільняй і Багданавам.

У 1912 годзе Фердынанд Рушчыц ажаніўся з выпускніцай Віленскай дзяржаўнай гімназіі Рэгінай Роўк. Верны і сапраўдны сябар жыцця, яна нарадзіла і вырасціла шэсць дзяцей. Перажыла мужа на тры гады, пахаваная на Багданаўскім пагорку побач з Фердынандам.

Дбайна ставіўся Ф. Рушчыц да мінуўшчыны і, як сапраўдны грамадзянін, аддана працаваў на пасадзе старшыні камісіі па ахове помнікаў старажытнасці, шмат ездзіў па мясцінах сівой даўніны. Усё гэта радавала мастака, падказвала яму новыя сюжэты і тэмы, але адначасова патрабавала вялікіх намаганняў. Калі польскі ўрад у пачатку 30–х гадоў ліквідаваў камісію, Фердынанд Рушчыц успрымае гэта хваравіта і, незадаволены, пакідае універсітэт і назаўсёды пераязджае ў Багданава. Тут узнікла яшчэ адна праблема – правая рука страціла магчымасць пісаць. Мастак збірае ўсю сваю сілу волі і робіць некалькі эцюдаў і замалёвак левай.

У Багданаве, на зямлі, якая дала яму жыццё, і скончыўся зямны шлях Фердынанда Рушчыца. Лёс наканаваў яму 66 год жыцця.

**ПАСЛЯ** смерці мастака знайшлі картку, напісаную яго рукой: "Калі я вымушаны буду з вамі развітацца, прашу, каб мяне паклалі ў любую зямлю Багданаўскую, у нагах маіх бацькоў найдаражэйшых; а ўсё–такі не хацелася бы мне расставацца з мілай для мяне Вільняй. Калі можна, няхай часцінка мая ў ёй застанецца: укрыйце ў адным з куткоў святога Барталамея на Зажэчы сэрца маё... А калі хочаце са мною песняй развітацца, зайграйце "Варшавянку", каб пад накрыўкай труны ў апошні раз вочы мае заплакалі".

Сын мастака, пан **Эдвард Рушчыц**, і ўнук, пан **Фердынад Рушчыц**, жывуць у Польшчы і тройчы наведалі філіял Нацыянальнага Мастацкага музея ў Гальшанах. Яны падарылі рэпрадукцыі карцін свайго бацькі і дзеда.

Цяпер па гэтых рэпрадукцыях мы можам меркаваць пра тое, што хвалявала жывапісца і графіка, што было крыніцай творчага натхнення. Тэма бацькаўшчыны, тэма Радзімы прысутнічаюць амаль у кожным творы. Пільнае вока майстра пэндзля лавіла не толькі прыгажосць зямлі нашай, якой няма мяжы, але і вечную цяжкую чалавечую працу на ёй.

Калі вы пагледзіце на карціну "Зямля", то на аб'ёмным палатне ўбачыце курчастае неба і цёмную, цяжкую раллю. З-за ўзгорка крочаць валы, падобныя да зуброў. А за імі – араты, сагнуты, змэнчаны, спрацаваны чалавек. Нешта ўжо знаёмае вы ўбачыце на карціне "Пустка". Ізноў неба, ізноў зямля. І яны ў **Ф. Рушчыца** жывыя. Вунь як нахіліліся дрэвы, на небе вецер гоніць хмары...

**Любоў КАРПОВІЧ.**



**Зямля і неба – гэты лейтматыў праходзіць праз усю творчасць мастака. Пра гэта гаварыў у сваім выступленні член Саюза мастакоў Беларусі Мікола Купава. Фердынанд Рушчыц любіў родную зямлю. Яна была эстэтычная крыніца, у якой мастак чэрпаў сілы і творчы ўздым, дзе адчуваў сябе ўтульна. І тут, у Багданаве, ён стварыў лепшыя свае карціны. Маляўнічыя пейзажы напоўненыя замілаванасцю і лірызмам. Пра сваю родную зямлю ён сказаў паэтычна ўзнёсла, прыгожым словам таленавітага жывапісца.**

## Краязнаўчы рух — гісторыя і пэрспэктывы

17 – 18 лютага ў Мінску ў рамках нацыянальных праграм Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі прайшоў круглы стол на тэму: "Краязнаўчы рух на Беларусі – гісторыя развіцьця, праблемы і перспектывы". Да ўдзелу ў ім былі запрошаныя вядомыя навукоўцы, прадстаўнікі шэрагу міжнародных Фондаў, якія працуюць на Беларусь, прадстаўнікі краязнаўчых арганізацый краіны і журналісты, якія спецыялізуюцца на краязнаўстве.

Удзельнікі азнаёміліся з дакладамі прафесара кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага Універсітэта імя Янкі Купалы "Літаратура і краязнаўства", старшыні гродзенскага Школьнага краязнаўчага таварыства **Аляксандра Госцева** "Работа з дзецмі і моладдзю", старшыні Магілёўскага краязнаўчага таварыства дацэнта кафедры археалогіі МДУ імя Куляшова **Ігара Марзалюка** "Метады даследвання рэгіёнаў", дырэктара Навагрудскага гісторыка–краязнаўчага музея **Тамары Вяршыцкай** "Супрацоўніцтва музеяў і краязнаўчых грамадскіх арганізацый", намесніка Цэнтра імя Францішка Скарыны **Віталя Скалабана** "Супольная праца краязнаўчых арганізацый і давядзенне вынікаў да грамадства".

Па кожным з дакладаў удзельнікі круглага стала дзяліліся асабістымі практычнымі досведамі, а выступоўцы адказвалі на пытанні. А па тэме "Агульнанацыянальны краязнаўчы праект: сітуацыя, сутнасць і вынік" прайшла свабодная дыскусія ды абмен прапановамі.

Удзельнікі круглага стала вырашылі ўтварыць Асацыяцыю краязнаўчых арганізацый Асамблеі няўрадавых арганізацый. Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне (017) 206 59 09 ад Наталлі Казлоўскай.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

